ГРОДНА
№17 (569),
26 верасня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Асаблівая місія і выключнае заданне




*Літургічны ўспамін святых арханёлаў – добрая нагода, каб зноў усвядоміць мэту нашага зямнога падарожжа.*

*на старонцы* 2

## Юбілей 30-годдзя дзейнасці сясцёр салезіянак у Беларусі




*"Сёстры – часцінка нашай душы!" – вернікі аб тым, як салезіянкі ўплываюць на духоўнае фарміраванне іх асоб.*

*на старонцы* 6

## Радасць і яе крыніцы. Разважанне на восень




*Радасць, унутраны спакой і шчасце, маюць вялікае значэнне для якасці нашай паўсядзённасці.*

*на старонцы* 7




# "Я ТУТ НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ, АЛЕ КАБ ВЫКАНАЦЬ БОЖУЮ ВОЛЮ"

**Чакалі так доўга, што нібы прызвычаіліся. Аднак раптам навіна – маем новага арцыбіскупа! Для нас гэтая падзея атрымала яшчэ больш асаблівае значэнне, бо новы мітрапаліт – біскуп Юзаф Станеўскі, былы дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі.**

*на старонцы* 3

# АРЦЫБІСКУП КАНДРУСЕВІЧ ДА АРЦЫБІСКУПА СТАНЕЎСКАГА: "БОГ ПАСЫЛАЕ ЦЯБЕ ДА НАРОДА, ЯКІ ПРАЙШОЎ ПРАЗ АГОНЬ, ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ"




*Абодва арцыбіскупы з'яўляюцца ўраджэнцамі Гродзеншчыны*

**Сённяшні нумар прысвечаны новаму кіраўніку Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, аднак у такі момант мы не маглі не паразмаўляць таксама з яго папярэднікам. Неверагодна, але факт: менавіта малады біскуп Кандрусевіч прымаў у Гродзенскую ВДС юнака, які праз 21 год стане яго наступнікам. У сённяшнім інтэрв'ю пра пачаткі, мары, прыярытэты і няўдачы цяпер ужо ганаровага мітрапаліта.**

*на старонках* 4–5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*У імгненне вока па нашай краіне разнеслася радасная вестка, што Святы Айцец Францішак прызначыў былога дапаможнага біскупа і генеральнага вікарыя Гродзенскай дыяцэзіі біскупа Юзафа Станеўскага арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім.*

*У асобе новапрызначанага арцыбіскупа Мінска-Магілёўская архідыяцэзія і ўся Мітраполія Каталіцкага Касцёла ў Беларусі атрымалі зайзятага і разважлівага пастыра, які ў духу любові да Хрыста Пана, у духу адказнасці і клопату пра дабро Божага люду будзе весці даручаную яму супольнасць мясцовага Касцёла па шляху веры да Хрыста, адзінага Збаўцы свету і Адкупіцеля чалавека.*

*Паказальна, што гэтае прызначэнне адбылося ў той час, калі ў Бялынічах на Магілёўшчыне адзначаліся галоўныя ўрачыстасці з нагоды 30-годдзя адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў нашай краіне.*

*Ахінём малітвай новага мітрапаліта, народжанага на нашай гродзенскай зямлі, каб з радасцю Евангелля ён мог дасягнуць сэрцаў усіх сваіх новых дыяцэзіян, памнажаючы ў іх любоў да Бога і жаданне быць Яго вернымі вучнямі!*



*кс. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**27 верасня**

**Успамін св. Вінцэнта дэ Поля, прэзбітэра.**

*Вінцэнт нарадзіўся ў Аквітаніі (Францыя) у 1581 годзе. Пасля вучобы быў пасвечаны ў святары. Каб паспрыяць фармацыі духавенства і ахінуць апекай бедных, ён заснаваў кангрэгацыю святароў місіянераў і сясцёр міласэрнасці. Памёр 27 верасня 1660 года ў Парыжы.*

**30 верасня**

**Успамін св. Гераніма, прэзбітэра і доктара Касцёла.**

*Святы з'яўляецца заступнікам біблеістаў, археолагаў, перакладчыкаў, а таксама вучняў і студэнтаў. Гэта незвычайная, займальная постаць, прыклад дасканалага спалучэння веры з навукай, а духоўнага жыцця – з інтэлектуальным. Св. Геранім пастаянна нагадвае, што "няведанне Святога Пісання – гэта няведанне Хрыста".*

**1 кастрычніка**

**Успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езуса.**

*Тэрэза Марцін, таксама вядомая як Маленькая Тэрэзка або Тэрэза з Лізьё, нарадзілася ў 1873 годзе. У 15 гадоў яна паступіла ў кляштар кармэлітак у Лізьё (Францыя). Вызначалася пакорай, евангельскай прастатой і вялікім даверам да Бога. Ахвяравала сваё жыццё дзеля збаўлення душ і для Касцёла. Памерла 30 верасня 1897 года.*

**4 кастрычніка**

**Успамін св. Францішка з Асізі.**

*Ян Бернардонэ нарадзіўся ў Асізі (Італія) ў 1182 годзе. Пасля бяздумна пражытай маладосці ён навярнуўся і, адмовіўшыся ад часовых дабротаў, вырашыў жыць у беднасці, каб наследаваць Хрысту. Заснаваў Ордэн Братоў Меншых і сясцёр кларысак, а таксама трэці ордэн, прысвечаны свецкім людзям. У канцы жыцця атрымаў стыгматы ран Хрыста. Памёр 3 кастрычніка 1226 года.*

**5 кастрычніка**

**Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.**

*Хрыстос прызначыў с. Фаўстыну адказнай за распаўсюджванне культу Яго Міласэрнасці. Наказаў ёй напісаць Дзённік, прысвечаны гэтай справе, маліцца Навэннай, Вяночкам і іншымі малітвамі да Божай міласэрнасці.*

**7 кастрычніка**

**Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

*Успамін быў устаноўлены папам Піем V у памяць аб перамозе хрысціянскага флоту над турэцкім войскам у Лепанто 7 кастрычніка 1571 года, якая была выпрашана ружанцовай малітвай.*

# АСАБЛІВАЯ МІСІЯ І ВЫКЛЮЧНАЕ ЗАДАННЕ




працяг са с. 1

**Свята, якое мы кожны год адзначаем у канцы верасня, у чымсьці асаблівае, таму што ўшаноўваем святых, але не людзей, а анёлаў. Асаблівых анёлаў, якія называюцца архангеламі: Міхала, Габрыэля і Рафала.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Акрамя анёлаў-ахоўнікаў, дадзеных кожнаму чалавеку, Бог таксама паклікаў да існавання анёлаў, якім даручыў выконваць асаблівыя місіі і задачы. Іх заданне выяўляе імя, якое яны маюць. Св. Рыгор Вялікі тлумачыў так: "Імя анёл не азначае натуру, але заданне. Духаў, якія прадказваюць самыя значныя падзеі, называюць архангеламі. Некаторыя з іх маюць свае ўласныя імёны, што ўказваюць на канкрэтныя іх задачы або паслугу".

**Да свсв. архангелаў звяртаемся ў самых розных патрэбах: у змаганні з сіламі цемры, як да апекуноў добрых навін, заступнікаў у хваробах.**

Імя св. Міхала азначае "Хто ж як Бог?". Згодна з традыцыяй, ён выступіў з гэтым вокрыкам, калі Люцыфер паўстаў супраць Бога. Як пераможца варожых Богу і Касцёлу сіл, ён падтрымлівае людзей у барацьбе са злом (параўн. Ап 12, 7–9). Існуе меркаванне, што ён прысутнічае побач з паміраючым чалавекам, калі той накіроўваецца ў вечнасць.

Імя св. Габрыэля перакладаецца як "Бог – мая сіла". Яго задачай было данесці да людзей Божую волю. Асабліва гэта тычыцца найважнейшага Божага плана, адлюстраванага ў сцэне Звеставання (параўн. Лк 1, 26–38). Папа Пій XII абвясціў яго заступнікам тэлеграфа, тэлефона, радыё і тэлебачання.

Св. Рафал – "Бог аздараўляе". Гэта адзін з сямі анёлаў, што стаяць напагатове і выходзяць перад абліччам славы Пана (параўн. Тоб 12, 15). Яго асоба і місія прадстаўлены ў кнізе Тобія. Ён з'яўляецца заступнікам хворых і падарожнікаў.

Свята свсв. архангелаў Міхала, Габрыэля і Рафала звяртае нашу ўвагу на існаванне іншага свету, акрамя зямнога, – нябеснага свету і вечнага жыцця з Богам, у якім ужо сёння жывуць анёлы. Езус Хрыстус, пра што напісана на старонках Евангелля, размаўляючы з Натанаілам і Піліпам, абяцае ім, што ўбачаць "неба раскрытае і анёлаў Божых, якія ўзыходзяць і сыходзяць на Сына Чалавечага" (Ян 1, 51), адкрываючы такім чынам Яго славу. Жывучы з Богам у вечнасці, мы зможам цешыцца з удзелу і сузірання таго, што ўжо цяпер бачаць і ў чым удзельнічаюць анёлы і арханёлы.

Літургічнае свята трох гэтых архангелаў з'яўляецца добрай нагодай, каб зноў усвядоміць мэту нашага зямнога падарожжа і прыняць на сябе звязаныя з ім цяжкасці і намаганні. Гэта асабліва важна ў сучасным свеце, у многіх вымярэннях рэальнасці, якая нас акружае, калі з поля бачання чалавека спрабуюць сцерці перспектыву вечнага жыцця з Богам, нашым Стварыцелем.

Мэта нашай пілігрымкі на зямлі – неба і вечнае жыццё з Богам. На гэтым шляху мы не самотныя, таму што нас пастаянна падтрымлівае дапамога, малітва і абарона анёлаў, якіх Бог дае нам як спадарожнікаў. Іх нястомнае суправаджэнне мы зможам зноў усвядоміць, адзначаючы неўзабаве (2 кастрычніка) успамін свсв. анёлаў-ахоўнікаў.

**Свята свсв. архангелаў Міхала, Габрыэля і Рафала адзначаем 29 верасня.**

У адным са сваіх лістоў да духоўных дачок святы а. Піо напісаў словы, якія можна прымяніць не толькі да нашых свсв. анёлаў-ахоўнікаў, але да кожнага са згаданых архангелаў: "Гэты добры анёл моліцца за цябе і ахвяруе Богу ўсе твае добрыя справы, твае святыя і годныя жаданні. Калі табе здаецца, што ты самотная і пакінутая, не скардзься, што табе не хапае сябра, якому магла б адкрыць сваё сэрца і даверыць свае няшчасці. Дзеля Бога, не забывай, што гэты нябачны таварыш побач з табой, заўсёды гатовы выслухаць цябе, заўсёды гатовы суцешыць".

Просім Бога дапамагчы нам перайманць свсв. архангелаў. Каб мы, падобна св. Міхалу, клапаціліся, каб Бог быў у нашым жыцці на першым месцы; каб, падобна св. Габрыэлю, неслі іншым радасную навіну і сведчанне аб дзеянні Бога ў нашым жыцці і жыцці іншых людзей; каб, падобна св. Рафалу, дапамагалі іншым перажываць Божае ацаленне ў душы і целе праз канкрэтную дапамогу і малітву.

Давайце даверымся Богу, і, бясспрэчна, нягледзячы на цяжкасці, якімі заўсёды будзе адзначана наша жыццё, мы здолеем прайсці гэты шлях, праслаўляючы Бога за Яго дабрыню.

# "Я ТУТ НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ, АЛЕ КАБ ВЫКАНАЦЬ БОЖУЮ ВОЛЮ"

*працяг са с. 1*

**Пра ролю Божага Провіду ў апошніх падзеях, пра свае трывогі (альбо не) адносна новай пасады і пра позірк у будучыню Касцёла на Беларусі ў сённяшнім інтэрв'ю распавядае новы арцыбіскуп Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Юзаф Станеўскі.**

*Ангеліна Марцішэўская*

***– Пасада Мінска-Магілёўскага мітрапаліта заставалася вакантнай на працягу года. Наколькі нечаканым для Вас было гэтае прызначэнне? З якімі думкамі прынялі навіну?***

– Напэўна, на працягу сваёй доўгай гісторыі Мінска-Магілёўская мітраполія і арцыбіскупства неаднойчы былі вакантнымі. Таму з аднаго пункту гледжання, абранне новага арцыбіскупа – гэта нібы звыклая сітуацыя. Аднак мы жывём у свеце, які не заўсёды разумее нас і які мы таксама часам не разумеем. І ў паўсталай сітуацыі, якая зацягвалася, заставался толькі маліцца. Маліліся ўсе: і вернікі, і святары – прасілі Святога Духога, каб асвяціў справу. Зважаючы на гэта, новае прызначэнне я прыняў з верай, што Святы Дух ведае дарогу, па якой далей нас павядзе.



*Біскуп Юзаф Станеўскі ў роднай парафіі ў Заневічах, 2019 г.*

***– На гэтай пасадзе Вы змянілі арцыбіскупа Тадэвуша Кан1дру44севіча пасля яго сыходу на пенсію. Аднак гэтаму папярэднічала сітуацыя з выгнаннем, якая магла паўплываць на сыход Мітрапаліта, дагэтуль поўнага энергіі. Аб чым падобны стан рэчаў сведчыць для Вас?***

– Шляхі Божыя нязведаныя. І не мае значэння, датычыць гэта звычайнага верніка ці мітрапаліта.

***– Вы былі першым чалавекам, які сустрэў арцыбіскупа Кандрусевіча на мяжы пасля яго вяртання на Радзіму. Падзяліцеся, калі ласка, аб чым Вы размаўлялі тады?***

– Першае, што было вельмі красамоўным, – гэта нашы братэрскія абдымкі, у якіх мы сустрэліся. Пасля іх словы здаваліся лішнімі. Мы не гаварылі шмат, з яго паводзін было бачна, што перажывае вялікую радасць, але разам з тым і трывогу. Напэўна, на твары дадалося маршчынак.

Аднак лінія была падведзена, калі мы ўжо выехалі з прыгранічнай тэрыторыі. Арцыбіскуп Тадэвуш папрасіў затрымаць машыну. Ён выйшаў, хоць надворе было дрэннае, стаў на калені і пацалаваў зямлю. "Я на Радзіме", – толькі і прамовіў ён.

***– Ваш папярэднік заўсёды быў вельмі чуллівы адносна тэмы атэістычнага мінулага Беларусі, адраджэння мясцовага Касцёла і асаблівым чынам звяртаў увагу на маштабы сучаснага рэлятывізма. А ці ёсць тэма, якая "баліць" Вам?***

– Мяне заўсёды бянтэжыла, што вернікі часта ўспрымаюць Бога як таго, хто быў раней, выканаў сваю місію і стаў гісторыяй. Нібы Евангелле заканчваецца на ўкрыжаванні. Зразумела, калі мы глядзім на крыж, то бачым фігуру Хрыста. Аднак Езус з яго сышоў! Ён жывы, Ён сярод нас, а крыж – гэта толькі наша дарога на неба. Таму я хачу, каб у Евангеллі мы бачылі больш радасці, каб канцэнтраваліся менавіта на радасці і былі шчаслівыя ад таго, што Бог – гэта не мінулае, што Ён працягвае прамаўляць да нас, і кожны можа гэта пачуць, калі толькі пастараецца.

***– Арцыбіскуп Кандрусевіч застаецца значнай асобай у гісторыі сучаснай Беларусі. Што Вы адчуваеце, пераймаючы гэтую эстафету ад такой аўтарытэтнай асобы?***

– Гэта вельмі адказная пасада, адказная паслуга. Аднак важна разумець, што Касцёл – гэта не свецкая ўстанова і тут не да месца кіравацца звыклымі нам параўнаннямі: хто больш пасуе, хто лепшы, а хто горшы. У Касцёле нас выбірае Хрыстос – затым пасылае і вядзе. Мы *(святары і манаскія асобы – заўв. аўт.)* – толькі прылады ў Божых руках. І я маю надзею, што Бог абраў мяне менавіта ў гэты час і ў дадзенай сітуацыі, бо штосьці ўва мне заўважыў. Да мяне моцна прамаўляе тое, што прызначэнне адбылося ў Год св. Юзафа. Носячы імя гэтага святога, якое выводзіцца з біблійных часоў і тлумачыцца як "Бог дадасць", я не баюся і цалкам аддаюся Божай волі. Як Госпад даручыў апеку над Святой Сям'ёй звычайнаму цесляру, так, напэўна, і мне даручае справу, ведаючы мае здольнасці.

***– Дагэтуль Вы былі адказным за фармацыю маладых святароў, узначальвалі Раду па справах моладзі. Якімі Вы ўбачылі юнакоў і дзяўчат нашай краіны? Якія бачыце формы развіцця моладзі ў супольнасці Касцела?***

– Сапраўды, гэтае пытанне блізкае майму сэрцу. Як і кожнаму, хто малады, нашым хлопцам і дзяўчатам уласцівыя энтузіязм, радасць, вясёласць, песні і пляскі, хуткасць і вялікая гучнасць. Аднак, назіраючы за маладзёнамі падчас ДДМ ці на меншых моладзевых сустрэчах, я заўважыў, што яны здольны прабываць у цішыні, гадзінамі стаяць у нерухомасці на каленях, весці дыялог з Богам. Часам нават бабуля не вытрывае ў застылай позе на адарацыі, а юнак – так, бо здаровы і малады! Таму вельмі важна, каб побач з нашай моладдзю пры кожнай парафіі былі духоўныя кіраўнікі, якія змогуць накіраваць іх рэсурсы ў правільнае рэчышча. Не менш важным момантам мне падаецца тое, каб духоўныя лідары з'яўляліся не толькі сярод духавенства, але і сярод саміх маладзёнаў, каб у кожнай маладой каталіцкай супольнасці былі хлопец ці дзяўчына, якія не пасаромеюцца падаць прыклад. Бо тады жыццё на аснове хрысціянскіх каштоўнасцей будзе падавацца раўналеткам больш магчымым да рэалізацыі.

Часта можна пачуць меркаванне, што супольнасць Касцёла – гэта супольнасць старэйшых людзей. Я хачу паставіць задачу, каб сённяшні Касцёл стаў таксама супольнасцю маладых.

***– Калі Гродна называюць "беларускім Ватыканам", то Магілёўскі рэгіён адрозніваецца найменшай колькасцю святароў і католікаў. Як Вы бачыце працу на гэтых тэрыторыях?***

– Я лічу, што кожны рэгіён нашай краіны чымсьці багаты. Нядаўна вярнуўся з Бялынічаў *(Магілёўская вобл – заўв. аўт)*, з урачыстасцей 260-годдзя каранацыі папскімі каронамі абраза Маці Божай Бялыніцкай. Гэта другі ў Беларусі – пасля абраза Маці Божай Жыровіцкай – абраз, каранаваны папскімі каронамі. Нездарма і самі Бялынічы называюць "беларускай Чанстаховай". Таму гэтыя землі маюць глыбокую і багатую гісторыю жыцця з верай, з Богам.

Але сёння сітуацыю маем такой, якая яна ёсць. І тут толькі нагадаю, што Хрыстовы Касцёл з'яўляецца таксама місійным Касцёлам, што запісана ў кананічным праве. Маем паняцце экскардынацыі *(выключэнне святара з адной дыяцэзіі і далучэнне да іншай – заўв. аўт.)*, таму калі хтосьці з маіх паплечнікаў чуе заклік Святога Духа і мае моцнае жаданне накіравацца на ўсход краіны, каб выканаць там Божую волю, то я запрашаю.

***– Вы пакідаеце Гродзенскую дыяцэзію і накіроўваецеся ў Мінска-Магілёўскую. Па чым будзеце сумаваць найбольш?***

– Для веруючага чалавека вельмі важным з'яўляецца месца яго першага судакранання з Богам. Для мяне гэтая мая малая радзіма, в. Заневічы – месца, дзе я нарадзіўся, прыняў першыя сакраманты, дзе жыве мая сям'я. Калі служыў у Гродзенскай дыяцэзіі, заўсёды меў час, каб часцей наведаць родныя мясціны. Не прапускаў аніводнай сямейнай падзеі: хросты, шлюбы, пахаванні. Але буду хутчэй успамінаць, а не сумаваць, бо нам усім і так хапае прыкрых рэчаў.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Чылійскі іерарх стаў сакратаром Кангрэгацыі духавенства

Святы Айцец прызначыў кс. Андрэса Габрыэля Фэрада Марэйру, дагэтуль чыноўніка Кангрэгацыі па справах духавенства, сакратаром гэтай дыкастэрыі, узводзячы яго ў годнасць арцыбіскупа.

Чылíец пачне выконваць новыя абавязкі 1 кастрычніка 2021 года. Ён зменіць на пасадзе 76-гадовага арцыбіскупа Жоэля Мішэля Мары Люка Мэрсье.

Фэрада Марэйра прыняў святарскае пасвячэнне 3 ліпеня 1999 года як святар архідыяцэзіі Санцьяга-дэ-Чылі. У 2006 годзе атрымаў ступень доктара тэалогіі ў Папскім грыгарыянскім універсітэце. Займаў розныя душпастырскія пасады ў сваёй архідыяцэзіі. З 2018 года па сённяшні дзень працуе ў Кангрэгацыі па справах духавенства.

### Новы галоўны арганізатар Міжнародных эўхарыстычных кангрэсаў

Папа Францішак прызначыў старшынёй Папскага камітэта Міжнародных эўхарыстычных кангрэсаў а. Карада Маджоні, былога падсакратара Кангрэгацыі Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў.

А. Маджоні – доктар літургікі. Працуе ў структурах Святога Пасаду з 1990 года. Падчас Вялікага юбілею 2000 года быў адказным за Літургічнае бюро Цэнтральнага камітэта. У 2007 годзе ўзначаліў яго. З 2013 года кансультуе Упраўленне папскіх літургічных цэлебрацый. 5 лістапада 2014 года Святы Айцец прызначыў яго намеснікам сакратара Кангрэгацыі Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў.

### У Ватыкане прадставілі Падрыхтоўчы дакумент Сінода Біскупаў

На важнасць шляху сінадальнасці, якой Бог чакае ад Касцёла трэцяга тысячагоддзя, паказвае Падрыхтоўчы дакумент XVI Звычайнай асамблеі Сінода Біскупаў.

Было адзначана, што мэта дакумента – дапамагчы сінадальнаму працэсу, у прыватнасці, у якасці інструмента падтрымкі першай фазы кансультацый з Божым людам у мясцовых Касцёлах, якая будзе праходзіць з кастрычніка 2021 года па красавік 2022 года.

XVI Звычайная асамблея Сінода Біскупаў будзе ўрачыста адкрыта ў Ватыкане 9–10 кастрычніка бягучага года ў прысутнасці Святога Айца. 17 кастрычніка распачнецца дыяцэзіяльны этап, які пройдзе на ўзроўні мясцовых Касцёлаў. 3 верасня 2022 года па сакавік 2023 года будзе адбывацца кантынентальны этап сінадальнага шляху, а ў кастрычніку 2023 года – паўсюдны, які пройдзе ў Ватыкане згодна з правіламі, устаноўленымі папам Францішкам у нядаўняй Апостальскай канстытуцыі "Episcopalis Communio".

### Малітоўныя інтэнцыі на кастрычнік

**паўсюдная**

Молімся, каб кожны ахрышчаны быў уключаны ў евангелізацыю, гатовы да місіі сведчыць жыццём са смакам Евангелля.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан Бог благаславіў тых, хто падтрымлівае місійную справу Касцёла.

# НОВАПРЫЗНАЧАНЫ МІТРАПАЛІТ МІНСКА-МАГІЛЁЎСКІ ПРЫСВЯЦІЎ БЕЛАРУСЬ МАЦІ БОЖАЙ БЯЛЫНІЦКАЙ




*Юбілейную ўрачыстасць у Бялынічах узначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч*

**Агульнабеларуская ўрачыстасць з нагоды 260-годдзя каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай адбылася ў Бялынічах. 17–18 верасня ў гэтым горадзе на Магілёўшчыне прайшоў адпустовы фэст з удзелам усяго епіскапату як выраз падзякі Богу за 30 гадоў з моманту аднаўлення касцёльных структур у Беларусі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

У праграме ўрачыстасцей былі канферэнцыя, канцэрт, наведванне музея і св. Імшы. У канферэнцыі ўдзельнічала таксама праваслаўнае духавенства. Галоўнай рэліквіяй фэсту стала копія старажытнага абраза Маці Божай Бялыніцкай, арыгінал якога лічыцца страчаным. Копію XVII стагоддзя знайшлі ў могілкавай капліцы каля в. Сноў. Абраз адрэстаўрыравалі, ён захоўваецца ў фондах музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Беларусі.

На заканчэнне ўрачыстасцей новапрызначаны Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі прысвяціў Беларусь Маці Божай Бялыніцкай. Акт прысвячэння быў прачытаны на заканчэнне св. Імшы на даўніх каталіцкіх могілках у Бялынічах. У Эўхарыстыі прынялі ўдзел каталіцкія біскупы Беларусі на чале са Старшынёй ККББ біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, а таксама прадстаўнік папы Францішка ў нашай краіне Апостальскі нунцый арцыбіскуп Антэ Ёзіч.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ВЕНГРЫЯ.** З нагоды Эўхарыстычнага кангрэса ў Будапешце адбылася сустрэча іерархаў каталіцкіх супольнасцей візантыйскага абраду ў Еўропе. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі 20-ці Цэркваў “sui iuris”. Спецыяльны госць на сустрэчы – Юсеф Абсі, Патрыярх Мельхіцкай Царквы ў Сірыі. Прадстаўнікі ўсходніх Цэркваў прынеслі сведчанні сучасных пакутнікаў на Міжнародны эўхарыстычны кангрэс.

**ПОЛЬШЧА.** Касцёл Перамянення Пана ў Зузэлі – мясцовасці, дзе нарадзіўся бл. кардынал Стэфан Вышынскі – быў абвешчаны дыяцэзіяльным санктуарыем. Парафія ў Зузэлі была заснавана 10 ліпеня 1448 года тагачасным біскупам Плоцкім Паўлам Гіжыцкім, а надзелена настаяцелем кляштара Звычайных Латэранскіх Канонікаў з Чэрвінска а. Рафалам. Першым храмам у гэтай мясцовасці быў драўляны касцёл св. Мікалая. Рашэнне аб будаўніцтве мураванага касцёла было прынята ў пачатку XX стагоддзя. Яго завяршылі ў 1913 годзе. 29 жніўня 1913 года святыню кансэкраваў біскуп Плоцкі Антоні Нававейскі. Падчас вайны касцёл быў значна пашкоджаны. Яго аднавілі ў 1957–1967 гадах дзякуючы намаганням зузэльскіх пробашчаў кс. Чэслава Рашкоўскага і кс. Яна Добжа.

**СЛАВАКІЯ.** Палявы алтар, пры якім папа Францішак цэлебраваў апошнюю св. Імшу на славацкай зямлі, быў пабудаваны з перапрацаваных матэрыялаў. Драўляныя элементы канструкцыі былі зроблены так, каб іх можна было выкарыстоўваць паўторна. Цэнтральны элемент – алтарная менса, але позірк таксама скіраваны на драўлянае распяцце, размешчанае ў галоўнай частцы прэзбітэрыя. Драўніна для яго вытворчасці паходзіць з касцёла, пашкоджанага падчас буры. Іншым ключавым элементам канструкцыі, выстаўленым падчас папскай літургіі, з’яўляецца статуя Маці Божай Балеснай.

**РАСІЯ.** У Санкт-Пецярбургу прайшлі першыя рэкалекцыі для ацалення ад псіхалагічнай і духоўнай траўмы, нанесенай абортам. Служыцелі рэкалекцый з’ехаліся ў Пецярбург з Масквы, Обнінска, Уладзівастока і Магілёва. Пастырскую апеку ад пачатку да канца рэкалекцый узяў на сябе кс. Рафал Ценжскоўскі, дамініканец. Фасілітатарам духоўных практыкаванняў выступіла маці Марыя Стэла Віціер, генеральная настаяцельніца Кангрэгацыі Сясцёр Кананічак у Пане Езусе і інструктар па правядзенні рэкалекцый “Вінаграднік Рахілі”.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# АРЦЫБІСКУП КАНДРУСЕВІЧ ДА АРЦЫБІСКУПА СТАНЕЎСКАГА: “БОГ ПАСЫЛАЕ ЦЯБЕ ДА НАРОДА, ЯКІ ПРАЙШОЎ ПРАЗ АГОНЬ, ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ”




працяг са с. 1

**У кіраўніцтве беларускага Касцёла пачынаюцца сапраўды эпахальныя змены. Паволі адыходзіць у цень цэлае пакаленне біскупаў, эстафету пераймаюць маладзейшыя. Хтосьці сказаў, што нельга глядзець у будучыню, не трымаючыся мінулага. Менавіта таму я папрасіў арцыбіскупа Тадэвуша акінуць позіркам пройдзены шлях. Не абышлося таксама без віншаванняў і сяброўскіх парад новаму мітрапаліту.**

*Арцём Ткачук*

***– Ваша Эксцэленцыя, Вы памятаеце момант, калі Вам прапанавалі стаць Мінска-Магілёўскім мітрапалітам? Што адчувалі тады?***

– Вельмі добра памятаю. На пачатку верасня 2007 года мяне заклікаў да сябе Апостальскі Нунцый у Расійскай Федэрацыі кс. абп Антоніа Меніні і сказаў, што папа Бенедыкт XVI хоча даручыць мне кіраўніцтва Мінска-Магілёўскай мітраполіяй. Спытаўся, ці згаджаюся.

Божы Провід дазволіў мне распачаць адбудову Касцёла ў Беларусі ў якасці біскупа ў 1990–1991 гадах, дзе ўсё складвалася вельмі добра. Затым у 1991 годзе прыйшло прызначэнне ў Расію, дзе трэба было распачынаць практычна з нуля. Я прыняў гэтае прызначэнне як Божую волю і стараўся выконваць даверанае мне заданне з поўнай аддачай.

І тут ізноў у 2007 годзе новае прызначэнне – вяртанне на Радзіму. Прызнаюся, што нялёгка было яго прыняць. Я ўжо зросся з Касцёлам у Расіі, хаця заўсёды памятаў і маліўся аб Касцёле ў Беларусі і сваёй Бацькаўшчыне, часта яе наведваў. Аднак я выхаваны ў духу “Roma locuta – causa finita” (“Рым сказаў – справа скончана”), таму без ваганняў у той самы момант адказаў нунцыю, што, куды Папа мяне пасылае, туды і іду.

***– Скажыце, пасля 16-ці гадоў працы ў Расіі, якім было вяртанне на Радзіму? Увогуле, ад чаго тады было больш радасці: ад новых выклікаў ці ад вяртання на родную зямлю?***

– Вядома, што была радасць ад вяртання на Радзіму, да людзей, сярод якіх вырас і з якіх быў пакліканы да Божай службы, хаця ў Расіі заставалася частка сэрца. Была таксама і радасць ад новых выклікаў і заданняў, для вырашэння якіх Божы Провід мяне выбраў і пасылае. Гэта падобна, як у спартсменаў: яны не ведаюць, як завяршыцца спаборніцтва, але цешацца, бо прымаюць у ім удзел, прадстаўляюць сваю краіну ці спартыўны клуб. Я ніколі не шукаў сваёй выгады, а заўсёды на першым месцы ставіў справу Касцёла і вернікаў.

***– Вы пераймалі Мінскую катэдру пасля чалавека-легенды – кардынала Казіміра Свёнтка. Ці часта Вы размаўлялі з кардыналам? Магчыма, ён даваў нейкія парады, якія запалі Вам у душу?***

– На самой справе я прымаў Мінска-Магілёўскую катэдру ад кс. біскупа Антонія Дзям’янкі, які больш за год кіраваў архідыяцэзіяй у якасці Апостальскага адміністратара “sede vacante”.

Аднак гэта не азначае, што я не раіўся з ксяндзом кардыналам. Нават сам інгрэс абмяркоўваў з ім. Раіўся як у персанальных справах духоўных асоб Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, так і адносна арганізацыі і ўдасканалення пастырства.

Ксёндз кардынал вельмі перажываў недахоп святароў і кансэкраваных асоб, а таксама касцёлаў, асабліва ў Мінску. Вялікую ўвагу звяртаў

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА


Алена Майсюк

# РЫХТУЕМСЯ ДА ЗІМЫ З КЛОПАТАМ ПРА СЯБЕ І НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ


profermu.com

**Вы калі-небудзь аналізавалі тое, як вам традыцыйна прапануюць перакопваць агарод, засольваць агародніну і варыць варэнне? А што наконт апраўданасці ўборкі лістоты і скошвання ўсёй травы? Вы таксама прытрымліваецеся неапраўданых укладанняў уласных сіл? Як можна паменшыць уласныя выдаткі і павялічыць карысць для сябе і ўсяго жывога навокал, вучыцеся пры дапамозе правераных на практыцы метадаў.**

### ЗАХОЎВАЕМ УРАДЖАЙ

Наш арганізм здольны атрымліваць карысць толькі ад жывога. Як жа захаваць агародніну і садавіну, ягады і зяляніну максімальна жывымі? Найбольш карысці арганізм атрымлівае ад спелых і цэлых пладоў. Лепш за ўсё ўраджай яблыкаў, вінаграду, сліў і карнеплодаў захоўваць у падвале, сабраўшы ў сухое яснае надвор'е. Не спрабуйце захаваць тое, што ўжо пачало псавацца – яно не пойдзе на карысць.

На зіму ўраджай можна засушыць і замарозіць. Для захавання карысных рэчываў выкарыстоўвайце тэмпературы сушкі да 40°С. Адзін з эканомных спосабаў – сушыць на батарэях цэнтральнага ацяплення. Калі пачнецца ацяпляльны сезон, ідэальна хутка засушваць кабачкі, гарбузы, буракі, моркву, тапінамбур, яблыкі. Іх трэба тонка парэзаць і нанізаць на драўляныя шпажкі так, каб паміж лустачкамі была прастора. На батарэю папярэдне пакласці паперу. За суткі-двое лустачкі высыхаюць, і іх можна змалоць ці захоўваць цэлымі ў папяровых пакетах. Карысць вы атрымаеце, калі будзеце іх размочваць у цёплай вадзе, не абвараваючы.

Забудзьцеся аб неапраўданым высілку квашання капусты. Яна прыносіць карысць арганізму толькі ферментаваная, без солі і цукру. Квас рыхтуецца трое сутак і сілкуе карысную мікрафлору кішэчніка. Дастаткова 1,2 кг капусты парэзаць, пакласці ў трохлітровы слоік, дадаць звычайнай вады, на смак кмен, а затым усё здрабніць блендэрам. Пакінуць у цёмным цёплым месцы, накрыўшы сподачкам. Брадзільныя працэсы будуць падымацца, таму вады павінна быць недаліта на палец, а слоік лепш змясціць у глыбокую талерку. Потым сок можна піць, а жмых выкарыстоўваць для салатаў або як начынку для ролаў, сырых галубцоў.

### АСЕННЯЯ БЕСКЛАПОТНАСЦЬ У САДЗЕ І АГАРОДЗЕ

Паглядзіце, як пра сябе клапоцяцца расліны, калі чалавек не ўмешваецца ў іх натуральнае развіццё. Дрэвы хаваюць каранёвую сістэму пад апалым лісцем, якое пад дзеяннем ападкаў пачынае раскладацца і вылучаць цяпло. Глебавыя жыхары перапрацоўваюць лісце, ператвараючы яго ў карысныя рэчывы. Гэты працэс доўжыцца да вясновага цяпла. Тут жа зімуюць насякомыя, якія абароняць будучыя ўраджаі.

У прыродзе існуе імпрынтынг. Гэта форма навучання, пры якой арганізм запамінае, дзе ён нарадзіўся, і будзе размнажацца ў тым жа месцы. Калі кожны сезон прыбіраць лістоту з-пад дрэў, абаронцы дрэва яшчэ не хутка яго знойдуць. Пакіньце лістоту для самазабеспячэння дрэва, і вы сябе пазбавіце ад высілку ўборкі і ўтылізацыі лістоты, ад падкормкі і хімічнай абароны расліны, ад пастаяннага клопату, які толькі правакуе аслабленне расліны.

Зямля гэтак жа прадумала механізм для абароны ўрадлівасці – уся зямля пакрываецца раслінамі. Там, дзе яна бедная на ўрадлівасць, першымі засяляюцца расліны, якія называюць пустазеллем. Але гэта самыя карысныя травы, таму што яны ўзбагачаюць сваёй зялёнай масай паверхню глебы разнастайнымі элементамі. На зіму зямля павінна быць добра схавана зялёнай масай, каб глебавыя мікраарганізмы змаглі добра перазімаваць, не прамерзнуць і ўвесну раней пачаць перапрацоўваць леташнюю зяляніну. Калі пацяплее, будучыя градкі можна прыкрыць чымсьці шчыльным, каб трава не змагла ўзысці раней пасадак.

### З КЛОПАТАМ ПРА ПТУШАК

У прыродзе многія расліны пакідаюць свае насенне на сцябле. Гэта і дапамагае харчавацца птушкам. Лапух, сланечнік, парасонавыя і многія іншыя расліны значна вышэйшыя за ўзровень снежнага покрыва, таму яны даступныя для птушак. Так і ягады глогу, рабіны, шыпшыны здольны пракарміць птушак без вашага ўдзелу. Затое такія прыкормкі стануць прывычнай заставацца побач з вамі і абараняць будучыя ўраджаі. Птушкі гэтак жа карыстаюцца імпрынтынгам – дзе было добра зімой, хапала корму, там можна і патомства выводзіць.

Кармушка не лепшы варыянт для птушак. Чалавек можа проста перастаць прыязджаць. А яшчэ адна з небяспек – гэта хуткае распаўсюджанне хвароб. Таму лепшым варыянтам клопату будзе пакідаць у садзе вакол дома расліны з насеннем і пладамі, каб самі птушкі іх знаходзілі. Яны ж здольны паменшыць колькасць лічынак у лістоце і пад карой.

Думайце загадзя аб тым, як уладкаваць сваю прастору, каб яна магла сябе забяспечваць, не патрабуючы ад вас цяжкай працы. У гэтым заключаецца ўстойлівасць развіцця.

---

на неабходнасць адпаведнай якаснай фармацыі святароў. Быў таксама заклапочаны праблемай развіцця адносін з дзяржавай, асабліва адсутнасцю Канкардата.

***– Падзяліцеся, калі ласка, якія справы, здзейсненыя за 13 гадоў Вашага кіравання, "грэюць" душу?***

– Такіх спраў нямала. Найперш, гэта Будслаўскі фэст, які стаў лакмусавай паперкай нашай набожнасці і заслужана быў прызнаны ЮНЕСКА сусветнай нематэрыяльнай каштоўнасцю. Таксама будова і адраджэнне святынь. Прычым не толькі і не столькі як культурных і гістарычных аб'ектаў, але перадусім як месцаў спаткання чалавека з Богам. Падрыхтоўка катэхетаў, спецыялістаў касцёльнай музыкі, каталіцкіх медый і сацыяльных працаўнікоў Каледжам каталіцкай тэалогіі імя св. Яна Хрысціцеля. Гэта таксама актывізацыя служэння дабрачыннага таварыства "Карытас", якое вядома не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. І развіццё каталіцкіх медый, перадусім выдавецтва "Pro Christo" ды іншых, партала Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі "Catholic.by" і "Радыё Марыя". Гэта арганізацыя пілігрымак да святах месцаў у Беларусі ды за мяжой. І развіццё міжканфесійных ды міжрэлігійных адносін, а таксама адносін Касцёла з дзяржавай і грамадствам.

***– Магчыма, ёсць рэчы, якія не атрымаліся, "не выгаралі", як кажуць? Ці, можа, праекты, якія Вы не паспелі давесці да канца?***

– Я марыў адкрыць каталіцкую вышэйшую навучальную ўстанову ў Мінску. Удалося зарэгістраваць Статут Каталіцкай акадэміі імя св. Яна Паўла ІІ. Аднак з-за таго, што не быў выдзелены зямельны надзел, справа не атрымала свайго далейшага развіцця. Колькасць святароў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі павялічылася значна, аднак не настолькі, як хацелася б. Вялікую трывогу выклікае крызіс пакліканняў да святарства і кансэкраванага жыцця. Колькасць касцёлаў у Мінску і іншых гарадах вырасла, аднак яшчэ далёка не дастаткова, каб задаволіць патрэбы вернікаў. Таксама не ўдалося атрымаць адпаведную радыёхвалю для функцыянавання "Радыё Марыя", бо вэб-радыё ўжо не хапае.

***– Існуе меркаванне, што менавіта падчас Вашага кіравання Касцёл у Беларусі стаў беларускім, вельмі блізкім беларусам. Пагодзіцеся з гэтым?***

– Трэба адзначыць, што слова "каталіцкі" паходзіць ад грэчаскага слова "katholikos", што азначае "паўсюдны". Паўсюль, дзе я служыў святаром і біскупам, стараўся прамаўляць зразумелай вернікам моваю, улічваючы пры гэтым і нацыянальна-культурны аспект. Дзіўным было б, калі б у Беларусі не размаўлялі на беларускай мове (хаця гэта ўсё яшчэ застаецца вялікай праблемай) і не маліліся на ёй. Вядома, што мова з'яўляецца сведчаннем нацыянальнай свядомасці і культуры. Калі яна слаба выкарыстоўвалася ў штодзённым жыцці доўгія часы, то нельга ўсё змяніць імгненна. Гэта яшчэ справа культурнай самасвядомасці.

***– Нярэдка гаворачы падчас казанняў пра Беларусь, Вам цяжка стрымаць эмоцыі. Якія струны Вашай душы тады закранаюцца?***

– Беларусь – гэта мая Радзіма. Я тут нарадзіўся, вырас, бацькамі і нешматлікімі святарамі быў выхаваны ў каталіцкай веры. Адсюль паехаў у шырокі свет. Радзіма і вынесеная з яе вера дапамагалі ў складаных умовах ваяўнічага атэізму захаваць сваю хрысціянскую тоеснасць. Беларусь – гэта крыніца майго духоўнага жыцця. Гэта мая Маці, якая мяне нарадзіла і выхавала. Ці можна забыцца сваю Маці? Не!

Усё жыццё я памятаў аб гэтым і памятаю надалей. Таму шчаслівы, што пасля святарскага і біскупскага служэння ў іншых краінах, магу служыць на сваёй Бацькаўшчыне. Радзіму нельга выкінуць з сэрца! Яна, як добрая Маці, нават калі мы знаходзімся далёка ад яе, памятае пра нас. Адсюль і эмоцыі, і слёзы…

***– Як Вы думаеце, гэта проста супадзенне, што ўжо другі раз запар кіраўніком Мінска-Магілёўскага Касцёла Папа прызначае ўраджэнца Гродзеншчыны?***

– Касцёл на Гродзеншчыне з'яўляецца самым моцным і актыўным у нашай краіне. Тут найбольш святынь, пакліканняў і вернікаў. Тут вельмі моцныя шматвяковыя рэлігійныя традыцыі. Адчуваецца вялікі дынамізм веры. Акрамя таго, у Гродне дзейнічае духоўная семінарыя. Тут каталіцкая вера вельмі эфектыўна праяўляецца ў высокім узроўні евангелізацыі і катэхізацыі, а таксама ў дабрачыннай дзейнасці.

Новапрызначаны Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі з'яўляецца выхаванцам гэтага Касцёла і адначасова, як рэктар Гродзенскай духоўнай семінарыі, выхавальнікам шматлікіх святароў. Яго прызначэнне – гэта не простае супадзенне. Яно заслужана верным і ахвярным служэннем Касцёлу. Гэта таксама гонар Гродзенскага Касцёла і яго дар Мінска-Магілёўскаму.

***– "Людзі змяняюцца, Касцёл застаецца", – сказалі Вы пасля таго, як было абвешчана аб прыняцці Вашай просьбы аб вызваленні ад абавязкаў. Што б Вы пажадалі арцыбіскупу Юзафу сёння? Якія парады далі б на старце гэтага шляху?***

– Лацінскае выслоўе сцвярджае: "Non progredi est regredi" – "Хто не ўдасканальваецца, той дэградуе". Так было, так ёсць і так павінна быць. Змена біскупа – гэта нармальная практыка Касцёла. Біскупы змяняюцца, але Касцёл застаецца.

Я асабіста вельмі ўсцешаны, што папа Францішак прызначыў Яго Эксцэленцыю кс. арцыбіскупа Юзафа Станеўскага Мінска-Магілёўскім мітрапалітам. Я прымаў яго ў семінарыю ў далёкім 1990 годзе, быў яго кансэкратарам у 2014 годзе, а сёння з радасцю віншую з гэтым прызначэннем і вітаю як новага кіраўніка сталічнай каталіцкай кафедры.

Дарагі Уладыка, мой непасрэдны наступнік на мітрапалічай кафедры ў Мінску, наступнік легендарнага кардынала Казіміра Свёнтка, трэці Мінска-Магілёўскі мітрапаліт! Па прыкладзе свайго нябеснага апекуна св. Юзафа заўсёды з пакорай услухоўвайся ў словы Бога, якія прагучалі ў рашэнні папы Францішка: "Не бойся!".

Бог пасылае цябе да народа, які прайшоў праз агонь, ваду і медныя трубы ў абароне веры і захаванні сваёй хрысціянскай тоеснасці. Пасылае да народа адкрытага на сваіх пастыраў. Пасылае да народа, які будзе маліцца за цябе і будзе падтрымліваць у цяжкасцях нясення крыжа біскупскага служэння, які на твае чалавечыя плечы ўсклаў Бог у свята Узвышэння Святога Крыжа. Не бойся, ідзі да гэтага народа з адкрытым сэрцам і багатым досведам святарскага і біскупскага служэння! Будзь яму біскупам і разам з ім – хрысціянінам! Не бойся адплысці на глыбіню, бо там цябе чакае багаты ўлоў!

Няхай апякунка Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Маці Божая Будслаўская, галоўны апякун Беларусі св. арханёл Міхал і твой нябесны заступнік св. Юзаф выпрошваюць у Бога для цябе патрэбныя ласкі і бласлаўленне.

"Ad multos et faecundos annos" – "На многія і плённыя гады!"

*Поўную версію інтэрв'ю можна прачытаць на сайце* ***grodnensis.by.***

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ МОЛАДЗЬ НЕ ХОЧА ХАДЗІЦЬ У КАСЦЁЛ?



*Кс. Павел Салабуда,* *псіхолаг*

Часцей за ўсё цяжкасці рэлігійнага выхавання датычаць моладзі ва ўзросце 13–18 гадоў. Тады бацькі часцей за ўсё могуць пачуць, што іх дзіця не пойдзе ў касцёл або на споведзь, што яму не патрэбна катэхеза да канфірмацыі. Бунтар апраўдваецца тым, што яму проста не хочацца. Што тады адбываецца з маладым чалавекам?

У сітуацыі, калі сям'я поўная, моцна веруючая і практыкуючая, дзе існуе ўзор малітвы з боку бацькі і маці, дзе яны з'яўляюцца духоўным аўтарытэтам, такіх пытанняў будзе менш, а можа, яны наогул не ўзнікнуць у жыцці дзяцей.

Варта нагадаць, што ўся гэтая сітуацыя часцей за ўсё можа быць звязана з працэсам пераходу з дзяцінства ў дарослае – з крызісам падлеткавага ўзросту. Часта гэта час інтэграцыі сваёй веры. Калі чалавек сталы ў рэлігійным плане, ён адчувае прысутнасць Бога, даручае Яму сваё жыццё, цалкам давярае Богу, любіць Яго і адчувае сябе добра. На жаль, многія маладыя людзі перажываюць гэты перыяд вельмі бурна і неспакойна, яны яшчэ не ўмеюць бязмежна камусьці давяраць, любіць ці спадзявацца, нават калі гэта датычыць Бога. Прычын можа быць шмат. Адной з першых такіх прычын сёння з'яўляецца вялікая група маладых людзей, якія пазбягаюць наладжвання кантактаў, замыкаюцца ў сабе, жывуць у віртуальным свеце, адыходзячы ад грамадскага і сяброўскага жыцця, на першым месцы ў іх знаходзіцца інтэрнэт і віртуальнае жыццё. Гэты перыяд можа быць даволі кароткім, а можа доўжыцца нават некалькі гадоў. Ёсць і тыя, хто пагружаецца ў філасофскія і рэлігійныя разважанні, думаючы, што толькі яны могуць змяніць увесь свет, і хочуць растлумачыць сабе ўсё.

Перыяд падлеткавага ўзросту для многіх становіцца часам, калі малады чалавек ставіць пад сумнеў перададзеныя каштоўнасці і звязвае гэта з крызісам аўтарытэту. Моладзь шукае новыя аўтарытэты, вызваляецца з-пад апекі старэйшых. Вельмі важна, каб бацькі і выхавацелі захоўвалі спакой ды цярплівасць і аказвалі дапамогу маладым людзям.

Пагрозай для веры маладога чалавека з'яўляецца таксама сацыяльнае асяроддзе, сур'ёзна абцяжаранае прадузятасцю, пагардай або нянавісцю да веры і рэлігійнай практыкі. Вельмі шкодны ўплыў мае пануючы навокал псіхічны клімат геданізму, які не змагаецца з рэлігіяй, але абыякавы да яе. Пазбаўленага нейкай вышэйшай матывацыі, чалавека проста заклікаюць атрымліваць асалоду ад "поўнага" жыцця, без ахвяр і каштоўнасцей, не кажучы ўжо пра глыбокае пачуццё сэнсу жыцця. Вядома, усё гэта – як і яшчэ мноства прычын – уплывае на асобу.

Безумоўна, важная роля ў пераадоленні такіх рэлігійных крызісаў адводзіцца малітве, рэлігійным практыкам і – перш за ўсё – рэлігійным кантактам. Калі малады чалавек не хоча маліцца, бацькі павінны пачаць маліцца за яго. Добра, калі яны скажуць свайму дзіцяці аб гэтым, напрыклад: "Дарагое наша дзіця, мы з татам пачынаем маліцца за цябе, каб ты знайшоў правільныя каштоўнасці і сэнс свайго жыцця". Не варта наўпрост казаць пра навяртанне, але менавіта з любові да дзіцяці, па-сяброўску ахвяраваць яму сваю малітоўную падтрымку. Добра, калі на шляху гэтага маладога чалавека знойдзецца выхавацель або душпастыр, які ўсё ж паспрабуе паставіць яго на правільны шлях, сваёй спагадай пакажа цудоўную каштоўнасць малітвы, каштоўнасць прабывання ў касцёле і выканання іншых набожных практык. Гэта нават можна назваць спецыялізаванай дапамогай і падтрымкай.

Самае галоўнае, каб бацькі паспрабавалі знайсці сапраўдную крыніцу ўзніклых цяжкасцей, крызісу або канфлікту. Менавіта добрае веданне сябе і праблемы дазваляе шукаць канструктыўнае рашэнне. Важна быць побач з асобай, якая знаходзіцца ў крызісе. Тады малады чалавек, калі яму гэта спатрэбіцца, адчуе прысутнасць моцы таго, каму ён неабыякавы. Павучанне ў такіх сітуацыях звычайна становіцца неэфектыўным, таму што асоба ў крызісе "глухая". Вельмі частыя размовы з маладым чалавекам, уважлівае слуханне яго, дазволіць яму ставіць складаныя і інтымныя пытанні і гаварыць пра свае праблемы перад старэйшымі без страху. Чуйнасць да ўнутранага свету маладога чалавека становіцца ключом да разумення прычын яго крызісу і цяжкіх момантаў яго жыцця. Калі маладзён прадстаўляе свае пачуцці, то дарослы можа далікатна паспрабаваць падвергнуць іх аб'ектыўнай ацэнцы і аналізу. У такіх сітуацыях было б вельмі добра, каб у сям'і быў дыялог, добрыя зносіны паміж усімі яе членамі. Затым можна дапамагаць і прапанаваць шляхі выхаду з крызісу, вядома, пакідаючы маладому чалавеку свабоду. Важнае значэнне мае назіранне з боку бацькоў, выхавацеляў асобы, якая знаходзіцца ў крызісе, і ўменне выпраўляць такія паводзіны, не асуджаючы, а падтрымліваючы.

Таму варта глядзець на крызіс падлеткавага ўзросту з аптымізмам, бо ён можа стаць выдатнай магчымасцю для фарміравання сталай рэлігійнасці.

# ЮБІЛЕЙ 30-ГОДДЗЯ ДЗЕЙНАСЦІ СЯСЦЁР САЛЕЗІЯНАК У БЕЛАРУСІ



Біскуп Аляксандр Кашкевіч наведвае супольнасць сясцёр салезіянак у Смаргоні, красавік 2021 г.

працяг са с. 1

**С. Вераніка Блізнюк FMA**

Дочкі Марыі Успамогі, вядомыя як сёстры салезіянкі, прыбылі ў Беларусь з Польшчы 19 верасня 1991 года. Першым месцам іх працы стала парафія св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. Афіцыйна супольнасць сясцёр была закладзена 29 верасня і складалася з трох сясцёр. У іх абавязкі ўваходзіла катэхізацыя дзяцей і моладзі ў Смаргоні, Ашмянах, Жупранах і Варнянах, кіраванне хорам у Смаргоні і Ашмянах, а таксама дапамога кс. пробашчу ў парафіяльнай працы. Сёстры працавалі з энтузіязмам і адданасцю, і Пан Бог бласлаўляў іх паслугу новымі пакліканнямі ў Кангрэгацыю сярод мясцовых верніц.

Неўзабаве Кангрэгацыя Дачок Марыі Успамогі пачала распаўсюджвацца ў нашай краіне. У жніўні 1999 года была афіцыйна зацверджана супольнасць сясцёр салезіянак у Мінску. Манахіні катэхізавалі, ладзілі сустрэчы і праводзілі канікулы з дзецьмі ды моладдзю, распачалі працу Моладзевага цэнтра, дапамагалі ў парафіяльных справах. З 2005 года пад сваю апеку сёстры ўзялі Бараўляны, дзе хутка пачаў дзейнічаць араторый. З жніўня 1998 года распачала сваю дзейнасць новая супольнасць сясцёр у Бабруйску.

На жаль, на пачатку 2000-ых гадоў з-за недахопу сясцёр вымушаны былі закрыцца пляцоўкі Кангрэгацыі ў Смаргоні і Бабруйску. У сваю першую парафію салезіянкі вярнуліся толькі ў 2012 годзе. Такім чынам, сёння ў Беларусі Дочкі Марыі Успамогі маюць дзве пляцоўкі: супольнасць у Смаргоні, якая мае свой дом і Моладзевы цэнтр, а таксама супольнасць у Мінску, з якой адна сястра працуе ў Бараўлянах.

Адзначаючы 30 гадоў сваёй прысутнасці ў нашай краіне, сёстры салезіянкі вельмі ўдзячныя Богу за ўсе дары, якія ад Яго атрымалі і надалей атрымліваць: за пакліканне сямі мясцовых сясцёр, за дзяцей, моладзь, дарослых, якіх Пан паставіў на іх шляху, за новыя магчымасці, якія адкрывае перад імі. А сведчанні вернікаў кажуць самі за сябе.

### *Вераніка Рогач, Смаргонь*

*Дзіцячыя ўспаміны самыя моцныя і трывалыя. Менавіта на іх грунтуюцца будучыя адносіны з людзьмі і Богам. З ранніх гадоў памятаю вобразы сясцёр, якія працавалі ў маёй роднай парафіі: з гітарай і шчырай усмешкай, з займальнымі гульнямі і зацікаўленасцю да мяне, са смачнымі цукеркамі і незвычайнымі гісторыямі. Менавіта радасць і адкрытасць, прыняцце і любоў адчувала я ад іх, будучы маленькай дзяўчынкай. Разам з імі перажывала першыя сустрэчы з Богам праз катэхезы, канікулы, выезды.*

*Час ішоў, здараліся розныя моманты ў станаўленні веры, у тым ліку і крызісы, але першыя дзіцячыя перажыванні вярталі зноў на шлях веры. Сустрэўшы свайго будучага мужа Эдуарда, які не меў такога ранняга досведу веры, захацела таксама і яго пазнаёміць з салезіянскім асяроддзем, якое не навязвае веру, але далікатна суправаджае і напраўляе.*

*Нашай сям'і ўжо 6 гадоў, маем дзве дачкі, якія вельмі любяць сясцёр салезіянак, як і я ў дзяцінстве, бачаць іх жывую веру і шчырасць. Для дзяцей свята, калі ідзём у госці да сясцёр ці сустракаемся ў араторыі. Яны ведаюць, што да іх будуць адносіцца з цеплынёй і любоўю. Менавіта праз такія простыя рэчы і пачуцці яны знаёмяцца з Богам – міласэрным Айцом.*

### *Ганна Плахотнікава, Мінск*

*Упершыню я пазнаёмілася з сёстрамі салезіянкамі, калі мела 13 гадоў. Менавіта ў гэты час у маё жыццё ўвайшлі першыя свядомыя катэхезы, якія праводзіла с. Уладзіслава Цесля – мудрая і разважлівая. Пазней я стала аніматарам. Разам з сёстрамі мы ўдзельнічалі ў рэкалекцыях, фармацыйных сустрэчах, ладзілі вакацыі і іншыя мерапрыемствы. Гэта быў вельмі цікавы і прыемны час – час духоўнага фарміравання маёй асобы.*

*Пасля ад'езду с. Уладзіславы ў іншую краіну, маім духоўным настаўнікам стала с. Маргарыта Пятрушчак. Яе я заўсёды называла энерджайзерам. Яна ж рыхтавала мяне з маім мужам да шлюбу. А зараз ужо нашы дзеткі ходзяць на катэхезу да сясцёр салезіянак.*

*Хачу падзякаваць кожнай сястры з Кангрэгацыі Дачок Марыі Успамогі за любоў, увагу, настаўніцтва і малітву. І дзякую Богу за тое, што сёстры ёсць у маім жыцці.*

### *Ала Грахава, Бабруйск*

*З чаго складаецца чалавечая душа? Гэта складанае пытанне, на якое кожны адкажа па-свойму, але абавязкова будуць кропкі судакранання, бо не бывае душы без любові, жадання зразумець адзін аднаго, без літасці, харацтва, якое можна ўбачыць навокал і ў кожным з нас.*

*Гэта ўсё тое, што адразу ўсплывае ў свядомасці, калі заходзіць гаворка пра сясцёр салезіянак, якія сталі часцінкай душы ўсіх нас, а для некаторых нават тым штуршком, дзякуючы якому адчулася прысутнасць душы. Датычыцца тое не толькі моладзі, якая дзякуючы сёстрам стала іншай, нешта зразумела ў гэтым складаным жыцці, але і нас, шмат старэйшых за саміх сясцёр.*

*Дзякуючы ахвярнай працы сясцёр салезіянак, старэйшае пакаленне адчула неабходнасць зносін, паразумення, адкрытасці сэрца, жадання навучыцца радавацца жыццю, дзякаваць за яго. Мы зразумелі, што Бог – гэта не проста бясконцыя малітвы, а Нешта Іншае, што робіць жыццё не бессэнсоўным, а радуючым нас. Усвядомілі, што побач ёсць тыя, да каго можна звярнуцца ў любы момант і ў любой патрэбе. А гэта і ёсць тое, што складае душу, робіць яе адчувальнай і ўсё больш дзейснай.*

Працяг у наступным нумары.

# РАДАСЦЬ І ЯЕ КРЫНІЦЫ. РАЗВАЖАННЕ НА ВОСЕНЬ

працяг са с. 1

*"А цяпер іду да Цябе і кажу гэта ў свеце, каб яны мелі ў сабе поўную Маю радасць". Ян 17, 13*

**Восенню, калі дні становяцца карацейшымі, а надвор'е больш халодным, хочацца паразважаць пра радасць. Радасць як штосьці большае, чым добры настрой, штосьці глыбейшае, чым пачуццё весялосці.**


freepik.com

Кацярына Паўлоўская

У адной папулярнай рэлігійнай песні на польскай мове спяваецца, што святы "ні ў чым не мае патрэбы, заўсёды радуецца". На пропаведзях ці ў канферэнцыях розных духоўных асоб таксама можна пачуць, што хрысціянін павінен радавацца, альбо што хрысціяніна можна пазнаць па тым, што ён з'уляецца радасным чалавекам. А як радавацца, калі ёсць у жыцці фінансавыя праблемы альбо цяжкасці ў зносінах з блізкімі людзьмі? Як захаваць радасць, калі губляю працу? Калі не спраўляюся з вучобай?

Мы сапраўды можам прачытаць пра шматлікіх святых, што яны былі радаснымі людзьмі, хоць іх жыццё, як і нашае, не было бясклапотным. Момантамі (а можа, і часта) мы самі сустракаем людзей радасных. Гэта ўнутрана адчуваецца, калі размаўляеш з сапраўды радасным чалавекам. Разам з гэтым ён жыве у такім жа свеце, як і мы. Напрошваецца думка, што ўменне радавацца знаходзіцца ў нас унутры, а не звонку. У псіхалогіі таксама можна сустрэць меркаванне, што радасць і шчасце залежаць ад нашага падыходу да сітуацыі і жыцця ў цэлым.

"Радасць заключаецца не ў рэчах, а ў глыбіні нашай душы", – чытаем у св. Тэрэзы з Лізьё. У адным з тлумачальных слоўнікаў аўтар піша, што радасць – гэта "вясёлае пачуццё, адчуванне вялікага душэўнага задавальнення" (Тлумачальны слоўнік С.І. Ожэгава). Адкуль гэтае задавальненне ў нас з'яўляецца? Адкуль яно бярэцца ў душы і прымушае цела выпрацоўваць адпаведныя гармоны?

У лісце да Галатаў св. Павел піша так: "А плод Духа – гэта любоў, радасць, спакой [...]" (Гал 5, 22). Мы, хрысціяне, верым, што крыніцай глыбокай, пастаяннай і незалежнай ад абставін радасці з'яўляецца Бог.

Гэта не значыць, што людзі няверуючыя ці агностыкі не маюць нагод для радасці. Гасподзь дзейнічае ў жыцці кожнага чалавека, мае ўнікальны шлях да нашых сэрцаў. Шчырае праяўленне радасці, асновай якой не з'яўляецца чыёсьці няшчасце альбо несправядлівасць, можна назваць праяўленнем дзейнасці Бога ў сэрцы чалавека. Хрысціяне назавуць гэта дарам Святога Духа.

Нагодай для радасці могуць быць поспехі ў навуцы ці ў працы, абдымкі каханючай асобы альбо сустрэча з сябрам ці сяброўкай, таксама шопінг ці добрая кава ў кавярні. Радавацца такім рэчам – гэта аб'ектыўна добра і нармальна для эмацыянальна здаровай асобы. Што тады не так?

Тут можна паставіць пытанні з пачатку разважання: а што, калі няма грошай на каву ці новую вопратку, калі пасварыўся з блізкім чалавекам ці на працы не атрымалася добра выканаць заданне, калі дыпломную не паспеў напісаць ці не здаў тэсціраванне? У такія моманты таксама можна адчуваць радасць, але не праяўляць яе на эмацыянальным узроўні альбо рабіць гэта не так гучна. Можна яе мець на ўзроўні духоўным. Гэтая думка пераклікаецца з узгаданым вышэй слоўнікавым тлумачэннем радасці як "адчування вялікага душэўнага задавальнення".

Розныя аспекты жыцця маюць вялікае значэнне для нас. Гэта зразумела і нармальна. Разам з тым у іх ёсць агульная рыса – зменлівасць. Таму і крыніцай радасці яны з'яўляюцца непастаяннай. Абапірацца толькі на іх рызыкоўна.

У Бібліі мы чытаем, што нязменным з'яўляецца Бог: "Усялякае дараванне добрае і ўсялякі дасканалы дар паходзіць звыш ад Айца святла, у якога няма зменлівасці або ценю змены" (Як 1, 17). Зыходзячы з гэтага, лагічна зрабіць Госпада крыніцай радасці.

Калі мы ўспрымаем Бога як Таго, хто нас любіць, хто жадае нам дабра і шчасця, здзяйснення нашых мар, хто верны ў сваім добрым стаўленні да нас, тады пачынаем адчуваць радасць. Калі Бога бачым больш як таго, хто ацэньвае нас і кантралюе, хто хоча караць, а не адорваць дарамі, то і радавацца складана.

Як гэта часта ў пытаннях веры бывае, мы дакранаемся да канцэпцыі вобраза Бога ў нашым розуме і сэрцы, а ў выніку даверу – да Яго і радасці ад адносін з Ім. Такія рэчы, як радасць, унутраны спакой і шчасце, маюць вялікае значэнне ў кантэксце якасці нашай паўсядзённасці. Зыходзячы з гэтага, варта не спыняць іх пошукаў, калі адчуваем нястачу.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*26 верасня – XXVI Звычайная нядзеля*
*Мк 9, 38–43. 45. 47–48*

Ян сказаў Езусу: "Настаўнік, мы бачылі чалавека, які ў імя Тваё выганяў злых духаў, і забаранялі яму, бо не хадзіў з намі". Езус жа сказаў: "Не забараняйце яму, бо ніхто, хто ўчыніў цуд у Маё імя, не зможа адразу пачаць зласловіць Мяне. Бо хто не супраць нас, той з намі. І хто напоіць вас кубкам вады ў імя таго, што вы Хрыстовыя, сапраўды кажу вам, не страціць сваёй узнагароды. А хто спакусіць аднаго з малых гэтых, якія вераць у Мяне, таму лепш было б, каб павесілі яму на шыю млынавы камень і кінулі яго ў мора. Калі спакушае цябе рука твая, адсячы яе. Лепш табе калекаю ўвайсці ў жыццё, чым з дзвюма рукамі ісці ў геену, у агонь непагасны. І калі нага твая цябе спакушае, адсячы яе. Лепш табе ўвайсці ў жыццё кульгавым, чым з дзвюма нагамі быць кінутым у геену. І калі вока тваё цябе спакушае, вырві яго. Лепш табе з адным вокам увайсці ў Валадарства Божае, чым, маючы два вокі, быць кінутым у геену, дзе чарвяк іх не памірае і агонь не гасне".

### Сведчанне жыцця

*Умець сведчыць, асабліва самым блізкім, – вялікае мастацтва. Хто не асвоіў гэтага мастацтва, можа стаць прычынай спакусы, таксама для блізкіх. І справа не толькі ў тым, што ён пакажа дрэнны прыклад. Ён можа проста нічога не рабіць. Можа маўчаць, калі трэба гаварыць! Можа толькі гаварыць, калі неабходна дзейнічаць! Такая пастава не мае нічога агульнага з хрысціянствам. Яна часта становіцца прычынай шматлікіх спакус, а значыць, і многіх грахоў. Але Езус выразна кажа: "А хто спакусіць аднаго з малых гэтых, якія вераць у Мяне, таму лепш было б, каб павесілі яму на шыю млынавы камень і кінулі яго ў мора".*

*Рэзкія і трапныя словы Збаўцы з'яўляюцца запрашэннем да радыкальных дзеянняў. Але гаворка не ідзе пра адразанне канечнасцей або выкананне вачэй. Гаворка ідзе пра адшуканне ў асабістым жыцці таго, што перашкаджае імкнуцца да прыняцця Адкуплення Езуса.*

*Хрыстос запрашае нас дазволіць Яго ласцы дакрануцца да нашага спакутаванага і неспакойнага сэрца. Каб гэта адбылося, мы павінны прыбраць са свайго жыцця перашкоды, якія не дазваляюць нам жыць паўнатой Адкуплення Езуса!*

*Пане Езу Хрыстэ, дапамагай мне жыць паўнатой Твайго Адкуплення і даваць выразнае сведчанне аб Табе!*

*3 кастрычніка – XXVII Звычайная нядзеля*
*Мк 10, 2–12*

Падышлі фарысеі да Езуса і, выпрабоўваючы Яго, спыталіся, ці дазволена мужу разводзіцца з жонкаю? Ён сказаў ім у адказ: "Што наказаў вам Майсей?". Яны сказалі: "Майсей дазволіў пісаць разводны ліст і разводзіцца". А Езус сказаў ім у адказ: "Дзеля жорсткасці сэрца вашага ён напісаў вам гэтую запаведзь, бо на пачатку стварэння Бог стварыў іх мужчынам і жанчынай. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і злучыцца са сваёй жонкай, і будуць двое адным целам. Так што яны ўжо не двое, але адно цела. Таму тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае".

У доме вучні зноў спыталіся ў Яго пра гэта. Ён сказаў ім: "Хто разводзецца з жонкаю сваёю і акжэніцца з іншай, той чыніць распусту ў дачыненні да яе. І калі жонка разводзіцца з мужам сваім і выйдзе за іншага, чыніць распусту".

### Таямніца жыцця

*Пацвярджаючы праўду аб непарыўнасці сужэнства, Езус прыгадвае волю Бога ў гэтай галіне. Ён адхіляе магчымасць разводу, спасылаючыся на стан, які быў у самым пачатку, у момант стварэння. "Таму тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае". Езус вельмі выразна супрацьстаіць старым яўрэйскім звычаям, таму што Яго новы закон накіраваны на ўдасканаленне таго, што было спачатку. Тыя, хто спытаў Езуса, добра разумелі, што Ён асуджае разводы, тлумачачы, што закон Майсея быў толькі фармулёўкай звычаю, які ўвялі самі яўрэі. Езус выразна адзначае, што гэта адбылося супраць волі Бога, з-за чэрствасці чалавечых сэрцаў.*

*Сужэнская любоў – адна з вялікіх таямніц жыцця. Жанчына і мужчына маюць аднолькавую чалавечую прыроду, з'яўляюцца роўнымі, адчуваюць узаемнае прыцягненне і дапаўненне ў фізічным і духоўным плане, могуць і хочуць жыць у шлюбе адзін з адным. Сужэнская любоў павінна быць дарам сябе, узаемнай аддачай і служэннем адзін аднаму.*

*Просьма Бога, каб мы заўсёды маглі быць такімі адказнымі і разважлівымі, каб, ідучы шляхам Божага бласлаўлення, мы настойліва клапаціліся аб развіцці любові і ўмацоўваліся ва ўзаемнай вернасці.*

*Пане Езу Хрыстэ, дапамагай усім сужэнцам быць адзін для аднаго дарам і служыць адзін аднаму.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ НАМІНАНТУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ

*з нагоды намінацыі на арцыбіскупа Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці і мудрасці ў выкананні паслугі кіравання Касцёлам. Няхай Божы Провід нястомна Вамі кіруе, а побач будуць зычлівыя людзі.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа і няспыннай дапамогі Найсвяцейшай Маці на дарозе жыцця. Жадаем таксама моцнага здароўя, радасці ад выконваемай паслугі і добразычлівых людзей побач.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаю сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, а Збаўца вядзе Вас цудоўнай святарскай дарогай. Жадаю моцнага здароўя, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і блаславення ад Пана Езуса.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ БАГУСЛАВУ ВАЙТОВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў працы на ніве Пана. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, а Маці Божая адорыць цяплом і ласкавасцю свайго сэрца.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гальшанаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе, Маці Божая акрывае сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, ахінае ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвячае дарогу, якою мы разам з Вамі ідзём.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых дароў і ласкаў Божых, а таксама апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: патрэбных Божых ласкаў, сілы ў абвяшчэнні Добрай Навіны, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа і цудоўнага плёну на ніве Пана.*

*З малітвай Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ СТЭЦКЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і радасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай добры Бог адорыць Вас сваімі ласкамі і супакоем, а Найсвяцейшая Панна Марыя – сваёй мацярынскай апекай.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Бердаўкі і Першамайска*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Твой жыццёвы шлях будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці, Маці Божая апекуецца Табой і атуляе цяплом свайго Найсвяцейшага Сэрца, Езус Хрыстус адорвае сваімі ласкамі, напаўняе радасцю, любоўю і спакоем, а Святы Дух апраменьвае святлом і шчодра ўдзяляе свае дары. Жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач.*

*Сябры*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем здароўя, сілы, надзеі, жыццёвай мудрасці, душэўнага супакою, Божага блаславення, апекі Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай паслугі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, павучальныя казанні і за тое, што Вы з намі і для нас. Шчасці Божа!*

*З павагай і палітвай вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ВІТАЛІЮ ЦЫБУЛЬСКАМУ, ЮРЫЮ ЁДЗІКУ, АЛЯКСАНДРУ ВАРАБ'ЁВУ І АРТУРУ ВАЛЧКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: штодзённага блаславення ад Езуса Хрыста, моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху, на які Вас паклікаў усемагутны Бог. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Святы Дух няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю і апекай.*

*Вернікі парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДЖЭЮ ГАНЧАРУ

*з нагоды юбілейнага дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці на кожны дзень жыцця, шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі на шляху служэння. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны Езусам, трывогі і смутак не кранаюць Вас, розум ніколі не стамляецца абвяшчаць Евангелле, сэрца заўсёды будзе напоўнена спакоем і любоўю, а Божае слова з Вашых вуснаў у моцы Святога Духа заўсёды даходзіць да нашых сэрцаў. Няхай Усемагутны Бог штодзённа дадае Вам сіл, аптымізму і надзеі на лепшае, каб Вы з радасцю служылі Богу і нам, парафіянам, і няхай Вас заўсёды акружаюць толькі добразычлівыя людзі.*

*З павагай і малітвай Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка", Ружанцовае кола, група "Маці ў малітве" і вернікі парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця, добрага здароўя, стойкасці, святла Святога Духа на кожны дзень, Божага блаславення, апекі святога заступніка і натхнення ў выкананні святарскіх абавязкаў.*

*Парафіяне з Поразава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Езус блаславіць Вашу святарскую паслугу, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы і ахоўвае ад зла, а Святы Дух адорвае сваімі ласкамі, дарамі, радасцю і спакоем.*

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і абʼядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У кляштары ў Замартэ (Польшча), дзе знаходзіцца дом навіцыяту Варшаўскай правінцыі кармэлітаў босых, з рук прыёра супольнасці а. Збігнева Колькі OCD прыняў манаскі хабіт бр. Аляксандр Швэц, які паходзіць з Беларусі.

Змена адзення са свецкага на манаскае на распачацце перыяду навіцыяту з'яўляецца бачным сімвалам унутранай перамены і гатоўнасці цалкам прысвяціць сябе Богу ды паглыбіць адзінства з манаскай сям'ёй.

Сабраты з Рэгіянальнага вікарыяту Ордэна Кармэлітаў Босых у Беларусі просяць падтрымаць бр. Аляксандра малітвай, каб ён вытрываў на абраным шляху служэння Богу, Касцёлу і людзям у сям'і Кармэля.




**часопіс "Ave Maria"**

Многія вернікі часта сустракаюцца з аповедамі пра тое, што нейкаму чалавеку аб'явілася Маці Божая, хтосьці са святых і нават Хрыстос – з важным пасланнем для свету.

Сапраўднае прыватнае аб'яўленне нічога не дадае веравучэнню Касцёла, а толькі можа дапамагчы глыбей перажываць яго паасобным вернікам. Зыходзячы з гэтага, Касцёл неадназова падкрэсліваў, што вернікі не маюць абавязку звяжаць на прыватныя аб'яўленні, бо ўсё неабходнае для збаўлення дадзена ім у Біблії і Традыцыі Касцёла, а тое, што часта падаецца як "прызнанне" Касцёлам нейкага прыватнага аб'яўлення, зводзіцца на справе да сцвярджэння, што яго змест не пярэчыць Божаму Аб'яўленню.




**беларуская рэдакцыя**

Каталіцкі Касцёл афіцыйна распачаў этап беатыфікацыйнага працэсу Гертруды Дэтцэль, вядомай у народзе як місіянерка ГУЛАГа. З самага дзяцінства Гертруда хацела ўступіць у манаскую кангрэгацыю і прысвяціць сваё жыццё абвяшчэнню Евангелля, але сутыкнулася з суровай рэчаіснасцю Савецкага Саюза. З пачаткам вайны жанчына была дэпартавана на поўдзень Казахстана на катаржныя работы. Выйшаўшы пасля апошняга тэрміну ў ГУЛАГу, Гертруда прысвяціла сябе аднаўленню рэлігійнага жыцця мясцовых вернікаў. Жанчына, рызыкуючы, збірала людзей у малітоўныя групы, малілася Ружанцам, чытала Святое Пісанне са старых, захаваных кніг і, наколькі магла, замяняла святароў.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У фарным касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе быў адноўлены гістарычны арган, які ўжо можна пачуць падчас набажэнстваў. Гэты арган – апошні музычны інструмент, зроблены на тэрыторыі нашай краіны ў міжваенны перыяд. Капітальны рамонт і рэстаўрацыя гістарычнага аргана, выраблена ў чэрвені 1939 года фірмай "A. A. Homan St. Jezierski w Warszawie", вяліся ў 2020–2021 гадах. Рэстаўрацыю інструмента праводзіў арганолаг Аляксандр Бурдзялёў.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3580; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.